# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 47 (2345)

25 лістапада 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.


ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

## КАГО ЗВАЦЬ БЕЛАРУСАМ...

*Вячаславу АДАМЧЫКУ — 60 ГАДОЎ*

**Вячаславу Адамчыку 1 лістапада споўнілася 60 гадоў. За некалькі дзён да падзеі пісьменнік па нашай просьбе наведаў "Голас Радзімы", дзе ў канцы 50-х ён пачынаў свой творчы шлях. Гутарка з ім цякла ладны час.**

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, на маю просьбу даць інтэрв'ю "Голасу Радзімы" з нагоды вашага юбілею вы згадзіліся на гутарку, але сказалі, што настрой у вас зусім не юбілейны. Што вы мелі на ўвазе! Што засмучае вас! Ці і вас, як кажуць сёння, дастала наша незразумелае жыццё!**

— Я меў на ўвазе самога сябе. Тое, што адзначаць юбілей, асабліва пісьменніку, не да твару. А калі па-чалавечы, то трэба проста жыць без вызначэння пэўных вехаў на сваім шляху. Жыццё ідзе, як і заўсёды, то трапляючы ў каляіну глыбокую, ці рытвіну, то выбіраючыся з яе. Што тычыцца сітуацыі эканамічнай, то я не назваў бы яе нязвыклай. Для мяне такое жыццё, можа, трохі знаёмае, бо я чалавек ваеннага часу, бачыў вайну, пажары, смерць блізкіх, суседзяў, знаёмых і незнаёмых людзей. Таму, дзякуй Богу, што пакуль што маем мірнае жыццё і можам працаваць.

Праўда, ёсць эканамічны завал. Можа таму, што мы не прыйшлі да тых рынačных адносін, пра якія гаворым, што Беларусь яшчэ не дамаглася рэальнай, я падкрэсліваю, **рэальнай**, незалежнасці, сапраўднага суверэнітэту. Гэта магу абгрунтаваць тым, што эканамічная залежнасць ад Расіі ставіць нас у даволі пікантнае становішча несамастойнай дзяржавы. І гэта ідзе, у першую чаргу, ад таго, што мы не шукаем сваёй дарогі і вінаваты кіраўнікі нашай дзяржавы. Начальства не гатова да суверэнітэту.

**— Яно бяздзейнічае...**

— І не толькі. Яно маральна, духоўна, па ўсіх параметрах не гатова да суверэнітэту. Усе яны сядзяць у Доме ўрада пад бела-чырвона-белымі сцягамі, але адчування, што яны беларусы незалежныя, у іх няма, і рабіць у гэтым напрамку ніхто з іх нічога не збіраецца. Чакаюць дабра ад Масквы, ад нейкага дзядзькі...

**— Наш Вярхоўны Савет доўга таптаўся вакол закона аб зямлі. Вас, як чалавека, які выйшаў з вёскі, мусіць хвалюе пытанне: хто на ёй будзе гаспадаром. Тэма зямлі прысутнічае і ў вашых найбольш значных творах, такіх, як "Чужая бацькаўшчына". Там два паняцці зямлі. Зямля як Радзіма і зямля ў літаральным сэнсе. Дык каму, па-вашаму, яна сёння павінна належаць!**


(Заканчэнне на 6-й стар.).




АДРАДЖЭННЕ ЖЫРОВІЧАЎ



**...Гараць золатам на сонцы купалы жыровіцкіх храмаў, ззяюць белізной старажытныя сцены, кругом велічная цішыня. І толькі мелодыя званоў ды прыгожае песнапенне парушаюць спакой...**

**НА ЗДЫМКУ: пабудовы Жыровіцкага комплексу.**


(Працяг фотарэпартажу на 3-й стар.).


ЦІ СТАНЕМ АДСТОЙНІКАМ ДЛЯ БЕЖАНЦАЎ?

## БАРОМЕТР "МІГРАЦЫЙНАГА НАДВОР'Я"

*Апошнім часам у праблеме бежанцаў адбыліся некаторыя зрухі: яе ў рэшце рэшт, здаецца, заўважылі. І хаця звярнуць увагу на праблему яшчэ не значыць вырашыць, будзем спадзявацца, што першы крок на цяжкім шляху зроблены. Сведчанне таму — запрашэнне Беларусі для ўдзелу ў еўрапейскай канферэнцыі па праблемах бежанцаў, што адбылася ў канцы кастрычніка ў швейцарскім горадзе Інтэрлакене. 17 еўрапейскіх дзяржаў прымалі ў ёй удзел, упершыню на канферэнцыю такога ўзроўню былі запрошаны прадстаўнікі Славакіі, Славеніі, Чэшскай рэспублікі і Беларусі — адзінай з усёй СНД.*

*Інтэрлакен — вельмі прыгожы невялікі гарадок у гарах, да якога ад Бёрна менш гадзіны язды на электрычцы. У швейцарскай электрычцы амаль не чутна грукату колаў і страшэннага віску і скрыгату на прыпынках, а таму я ўключыла свой дыктафон, каб пагаварыць з намеснікам дырэктара дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Белазорам, які таксама быў удзельнікам канферэнцыі. А пытанняў у мяне было шмат: чым выклікана ў апошні час такая цікавасць да Беларусі з боку еўрапейскіх міграцыйных службаў, няўжо ў нас становішча з бежанцамі горшае за ўсіх, ды і як увогуле зараз выглядае гэтая праблема ў нашай рэспубліцы?*

— На сённяшні дзень у Беларусі афіцыйна зарэгістравана 17,5 тысячы бежанцаў, — адказаў У.Белазор. — Але ж гэта — зарэгістравана, яшчэ 100-150 тысяч чалавек сёння пражываюць у рэспубліцы без прапіскі і грамадзянства. Апошнім часам нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы сталі самастойна заключаць кантракты з замежнымі грамадзянамі на вучобу ў нашых ВНУ, і сёння на тэрыторыі рэспублікі 3,5 тысячы такіх студэнтаў. Але ж многія з іх пасля заканчэння вучобы не хочуць вяртацца дамоў. Акрамя таго ў нас знаходзіцца некалькі тысяч в'етнамцаў, якія некалі працавалі тут па кантракту, а сёння не хочуць ехаць дамоў, 850 афганскіх студэнтаў, да якіх ужо прыехала 2 500 членаў іх сем'яў, палітычныя эмігранты з Эфіопіі, Ірана і Ірака. Увогуле, каля 200 тысяч мігрантаў, якіх практычна ніхто не кантралюе. Пры ўсім гэтым мы павінны быць гатовымі да таго, што сюды патокам хлынуць беларусы з Прыбалтыкі, якія пасля ўвядзення там закона аб грамадзянстве сталі апатрыдамі — людзьмі без грамадзянства. Да нас ідуць шматлікія пісьмы ад беларусаў з Сярэдняй Азіі, у якіх яны просяць даць ім прытулак, бо жыццё там для іх становіцца невыносным. Імкліва расце ў апошні час транзітная міграцыя. Вярбоўшчыкі з Масквы за вялікія грошы робяць фальшывыя пашпарты лівійцам, самалійцам, іранцам, а потым спрабуюць "працягнуць" іх праз нашу мытню. Там іх затрымліваюць, і яны застаюцца ў Беларусі. Ніхто нават не фіксуе іх, ніхто імі не займаецца, а чым займаюцца яны, застаецца толькі здагадвацца.

**— Вы намалявалі сапраўды жудасную карціну...**

— Бяда ў тым, што мы не хочам звярнуць увагу на гэтых людзей. Спасылаемся на адсутнасць грошай, умоў, заканадаўства. Быццам бы пакуль праблему не заўважаеш — яе не існуе. Мне шкада тых беларусаў, якія сёння едуць на сваю этнічную радзіму, таму што яна нічым не зможа ім дапамагчы. Два гады мы ўгаворваем, тлумачым, патрабуем, каб нашы дзяржаўныя дзеячы ў рэшце рэшт звярнулі ўвагу на праблему бежанцаў. Зараз, калі сітуацыя абвастрылася, трэба спяшацца. Але, як гавораць на Беларусі, хутка робім — сляпых родзім...

Поезд спяшаўся наперад, і здавалася, што за акном цягнецца бясконцая ненатуральна прыгожая паштоўка. Пакрытыя лесам горы, з якіх цякуць рэчкі з незвычайна зялёнай вадой. Гавораць, што такі дзіўны колер ёй надае талы снег з вяршынь гор. Можа так, а можа і не, ведаю толькі: гэта так прыгожа, што захоплівае дух, і вельмі далёкімі, нават нерэальнымі падаюцца адсюль праблемы Беларусі, ды і наогул любыя складанасці і цяжкасці. "Яшчэ адзін напамін аб тым, што лепшы спосаб не вырашаць праблему — зрабіць выгляд, што яе не існуе", — падумала я. Але ж дарога хутка скончыцца. І само жыццё нагадае: пасееш праблему — пажнеш бяду...


(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ВЫКАРЫСТАЦЬ ШАНЦ

### ГЕОРГІЙ ТАРАЗЕВІЧ БАЛАЦІРУЕЦЦА Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

**12 снежня ў Жодзінскай выбарчай акрузе N 87 пройдуць выбары народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Сярод кандыдатаў — Георгій Таразевіч, былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, цяпер першы намеснік міністра замежных спраў рэспублікі. Яго кандыдатуру вылучыла Партыя народнай згоды. Канкурэнты Г. Таразевіча — Міхаіл Антоненка, які з'яўляецца членам Беларускай сялянскай партыі, і Уладзімір Міхейчык, член Партыі камуністаў Беларусі.**

**Георгій Таразевіч сказаў карэспандэнту БелаПАН: "Неабходна выкарыстоўваць наяўную магчымасць уключацца ў работу, а не адседжвацца ў цёмным куце". На яго думку, цяперашні Вярхоўны Савет наўрад ці прыме рашэнне аб сваім роспуску і новых выбарах, калі становішча ў рэспубліцы будзе заставацца такім, як зараз.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### КЛІНТАН ПРЫНЯЎ ЗАПРАШЭННЕ

**На ранішнім пасяджэнні парламента 17 лістапада Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч паведаміў аб сустрэчы з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Злучаных Штатаў Амерыкі Дэвідам Суорцам, якая адбылася напярэдадні па просьбе амерыканскага дыпламата.**

**Дэвід Суорц пазнаёміў Станіслава Шушкевіча са зместам пісьма прэзідэнта ЗША Клінтана, у якім кіраўнік замежнай дзяржавы паведамляе, што прыняў запрашэнне наведаць нашу рэспубліку, выказанае ў ходзе візіту беларускай дэлегацыі ў Злучаныя Штаты ў ліпені 1993 года.**

**Паводле папярэдніх даных, візіт прэзідэнта ЗША ў Беларусь намячаецца на студзень 1994 года.**

З ДЗЯРЖКАМСТАТА

### УСЁ МЕНШ...

**У студзені-верасні 1993 года насельніцтву прададзена тавараў на 4 працэнты менш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, у тым ліку: мяса і птушкі — на 5, цэльнамалочнай прадукцыі — на 9—15, гароднiны — на 27-32, алею, рыбы і рыбапрадуктаў — на 36-46 працэнтаў. На ўзроўні мінулага года застаўся продаж яек.**

СЕНСАЦЫЯ

### ПЛАНАВАЎСЯ ПУТЧ?

**Як паведаміла БелаПАН, выступаючы на апошнім пасяджэнні Сойму Беларускага народнага фронта, старшыня гэтага руху Зянон Пазьняк заявіў, што, паводле папярэдніх звестак, невялікая група людзей з урадавага асяроддзя планавала 9 лістапада разагнаць Вярхоўны Савет Беларусі і ўвесці аўтарытарны рэжым Вячаслава Кебіча. Яшчэ і гэтым, маўляў, тлумачылася вялікае скапленне міліцыі і тэхнікі ля Дома ўрада ў дзень адкрыцця 13-й сесіі парламента. "Знайшоўся адказны работнік, — заявіў лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ, — гатовы арганізаваць у правакацыйных мэтах праліццё крыві". Прычым, са слоў Пазьняка вынікала, што гэты адказны работнік не міністр унутраных спраў Ягораў і не старшыня КДБ Шыркоўскі.**

КАРУПЦЫЯ

### СВОЙ — СВАЙМУ

**Пракуратура Гродзенскай вобласці ўнесла прадстаўленне ў гарадскі Савет народных дэпутатаў, у якім запатрабавала вызваліць ад займаемых пасад галоўнага архітэктара абласнога цэнтра Уладзіміра Лытава, яго намесніка Уладзіміра Анісімава і начальніка праектнага бюро Крысціну Сыраежка. Матывы — стварэнне імі рэжыму найбольшага спрыяння для дзейнасці кааператыва "Вант" і малога прадпрыемства "Акма". Як высветлілася, упраўленне архітэктуры і горадабудаўніцтва гарвыканкома закрывала вочы на ўзвядзенне гэтымі структурамі будынкаў у парушэнне ўсялякіх законаў і норм.**

**Прыцягнуты да адказнасці і іншыя вінаватыя, у прыватнасці, работнікі Дзяржархбудкантролю. Незаконнае будаўніцтва прыпынена.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

500 МІЛЬЯРДАЎ рублёў запрасіла з бюджэту на бягучы год адно толькі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі на ўтрыманне жылля. Транспартнікі просяць 122 мільярды... Такіх "прасіцеляў" многа. А ў дзяржаўным бюджэце на новы год маецца для ўсіх 260 мільярдаў рублёў.

У ГРОДНЕ, на доме па праспекту Будаўнікоў, 27, дзе больш 10 гадоў жыў вядомы беларускі гісторык, грамадскі дзеяч і перакананы адраджэнец Міхась Ткачоў, адкрыта мемарыяльная дошка ў яго гонар. На ўрачыстасці прамаўлялі прадстаўнікі гарадской улады, былыя калегі, вучні і сябры М. Ткачова.

"БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ" — так называецца беларуская старонка, што з'явілася ў віленскай рускамоўнай газеце "Эхо Литвы", органе сейма Літоўскай Рэспублікі. Старонка будзе штотыднёвай, у ёй змяшчацца матэрыялы пра жыццё і традыцыі беларусаў у Літве, паведамленні з Беларусі.

ПЕРШАЯ абарона Брэсцкай крэпасці адбылася ў верасні 1939 года. Тады польскія салдаты і афіцэры прынялі на сябе першыя ўдары нямецкага вермахта. Пра гэта ўпершыню можа даведацца кожны "савецкі чалавек" з экспазіцыі, што адкрылася ў Музеі абароны Брэсцкай крэпасці-героя.

16 ЛІСТАПАДА пры выхадзе з дому народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Васіль Даўгалёў падвергся нападу. Паводле слоў пацярпеўшага, трое невядомых нанеслі яму ўдары ў ліфце. Сталічная міліцыя, якая ўзбудзіла следства па гэтаму факту, пакуль што не бачыць палітычных матываў нападу. Васіль Даўгалёў — намеснік старшыні Кантрольнай палаты рэспублікі.

105 ГАДОЎ споўнілася Вользе Васільеўне ШАПЯЛЕВІЧ, жыхарцы вёскі Блужа Пухавіцкага раёна. Калектывізацыя, рэпрэсіі савецкага рэжыму, вайна — усё гэта перажыла Вольга Васільеўна. Нядаўна яе рэабілітавалі.

5 500 АМЕРЫКАНСКІХ долараў перадаў Брэсцкаму аблвыканкому Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі Ван Сіндэ. Гэта дар урада правінцыі Хубэй для жыхароў тых раёнаў Брэстчыны, якія пацярпелі летам ад паводкі.

ЗЭЛЬВЕНСКАЯ ДРЭС

### У 2000-м ГОДЗЕ

**Значна зменшыць дэфіцыт электраэнергіі ў Беларусі дзяржаўная рэгіянальная электрастанцыя, будаўніцтва якой прадугледжана на буйным вадасховішчы паблізу Зэльвы. Першыя блокі магутнасцю 450 тысяч кілават павінны ўвайсці ў строй да 2000 года, а з поўным уводам у эксплуатацыю ДРЭС будзе выпрацоўваць 1,8 мільёна кілават электраэнергіі.**

"ТРАНСАВІЯЭКСПАРТ"

### ПЕРАВОЗІМ ПА ЎСЯМУ СВЕТУ

**У Дэлі адкрылася прадстаўніцтва "Трансавіяэкспарту" — самага маладога з беларускіх авіяпрадпрыемстваў. Гэтая падзея — важны этап у развіцці міжнародных грузавых авіяперавозак. Экіпажы беларускай авіякампаніі лятаюць на самалётах ІЛ-76.**

**Падпісаны таксама дагавор аб супрацоўніцтве "Трансавіяэкспарту" з дэпартаментам грамадзянскай авіяцыі эмірата Шарджа, заключаны кантракты на абслугоўванне паветраных грузаў у міжнародным аэрапорце Шарамецьева-2 (Масква), а таксама ў грузавым аэрапорце Остэндэ (Бельгія). Гэта адкрывае перад "Трансавіяэкспартам" вялікія магчымасці фарміравання масавых грузавых патокаў з Усходняй Еўропы ў краіны Захаду, Блізкага Усходу і Паўднёва-Усходняй Азіі.**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

**У Гомельскай абласной бальніцы пачаў дзейнічаць Цэнтр тамаграфічных даследаванняў, аснашчаны тамографамі вядомай амерыканскай фірмы "Джэнерал Электрык Мерыкол Сістэмз" і змантіраваны з яе дапамогай.**

**Цяпер у гомельскіх медыкаў з'явілiся унікальныя магчымасці дыягностыкі хвароб і вызначэння з максімальнай дакладнасцю метадаў іх лячэння. Новае абсталяванне акажа вялікую дапамогу тым пацыентам, якія пакутуюць ад хвароб, выкліканых вынікамі чарнобыльскай катастрофы.**



**НА ЗДЫМКУ: прадстаўнікі амерыканскай фірмы каля ядзерна-магнітнага рэзанансавага тамографа, за якім працуе ўрач Лілія ЗДАРАВЕЦ.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

## ПА СТАРОМУ СЦЭНАРЫЮ

На жаль, песімістычныя прагнозы наконт эфектыўнасці работы дэпутатаў на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі абяцаюць спраўдзіцца. Падзеі разгортваюцца па старому і ўжо добра знаёмаму сцэнарыю. Зноў адным з кульмінацыйных момантаў сталі выступленні двух старшынь — Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, прысвечаныя так званаму "бягучаму моманту". С.Шушкевіч і В.Кебіч у каторы раз распавядалі пра цяжкасці цяперашняга стану Беларусі і прапаноўвалі свае шляхі выйсця. Па вялікаму рахунку нічога прынцыпова новага сказаць нашы лідэры не маглі — пазіцыі, і палітычныя, і эканамічныя, і таго і другога прамоўцы добра вядомыя. Дарэчы, і пераконваць каго-небудзь у тым, што жывём мы горш і горш, здаецца, таксама няма патрэбы: кожны жыхар рэспублікі гэта звездае на сабе. Таму ўсіх цікавіла толькі адно пытанне: можа, нарэшце замаячыў недзе выхад з тунеля? У першую чаргу, прыслухоўваліся да таго, што скажа ўрад у асобе яго кіраўніка Вячаслава Кебіча. І што ж атрымалі? Шэраг эканамічных выкладак, стосы лічбаў, бясконцы пералік "аб'ектыўных" прычын і сто першы праклён тым, хто "разарваў" эканамічныя сувязі. Слухаеш, і надзея на лепшую блізкую будучыню растае, як мароженае ў спякоту. Дзеянні беларускага кіраўніцтва часам нагадваюць сутаргавыя рывкі людзей, якія трапілі ў балотную дрыгву і не ведаюць броду. У адзін бок перакінуць жэрдку —раптам вытрымае, у іншы, але не, няма выратавальнай сцежкі. А ўслед за гэтым калектыўным Іванам Сусаніным ідзём усе мы, народ, дарэчы, свой народ, у адрозненне ад таго славутага расійскага Сусаніна, за спіной якога стаялі ворагі. Дзе ж палёгка, калі зноў размова пра новы шырокі ўвод картак на прадукты харчавання? Рэфармаваліся-рэфармаваліся і зноў вярнуліся да таго, ад чаго адыходзілі? Толькі тады не было пастаянных чэргаў за хлебам, а тэмпература ў кватэрах усё ж такі падымалася вышэй за цяперашнія 14-15 градусаў. На такім фоне настойлівае патрабаванне парламенцкай апазіцыі аб адстаўцы ўрада не здаецца залішне катэгарычным. Як сказаў у сувязі з гэтым адзін з дэпутатаў, "хужэ не будет, хуже уже некуда". Але далёка не ўсе яго калегі падтрымліваюць такое меркаванне. Дэпутат Герасіменка мяркуе, што "ўрад мае дастаткова сіл і майстэрства", патрэбны толькі сякія-такія кадравыя змены. Дэпутат Пракаповіч, у сваю чаргу, лічыць, што звяртаць увагу на прыбалтыйскі вопыт рэфармавання нам няварта. Умовы там, маўляў, іншыя. І ён мае рацыю, сапраўды іншыя. Няма на Беларусі той нецярпімасці, як у прыбалтаў, упэўненасці, што нельга так жыць, як жылі, што жыць трэба па зусім іншых законах. Няма і ў нашага ўрада, у адрозненне ад іхняга, той невычэрпнай веры ў суверэнітэт, незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне, без якіх немагчыма ніякае эфектыўнае рэфармаванне ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы.

Першы намеснік С.Шушкевіча В.Кузняцоў заклікаў шукаць кампрамісы, не фарсіраваць рэформы, а ісці эвалюцыйным шляхам, бо, на яго думку, дзякуючы вось гэткай запаволенасці, палавінчатасці, пачатак рэформ у Беларусі менш балючы, чым у той жа Прыбалтыцы, Польшчы. Але сённяшняя нерашучасць і бяздзейнасць урада, здаецца, больш нагадвае не анестэзію, а марудную агонію і прывядзе ў рэшце рэшт не да доўгачаканага выздараўлення, а да смерці. Між іншым, выратаванне па старой звычцы ўпарта шукаецца ў Маскве. Хаця ў даным выпадку падышла б прымаўка: "Спасение утопающих — дело рук самих утопающих". Драматызм альбо ўжо трагізм сітуацыі ў тым, што большасць дэпутатаў, а разам з імі і чыноўнага люду, наогул плаваць не ўмеюць, не здольная нават трохі трымацца на паверхні. А таму згодна з ужо вядомым парламенцкім сцэнарыем, пасля невялікага прамоўніцкага выбуху на пачатку наступных славесных перапалак з папрокамі то ў той, то ў іншы бок наступае зацішша. А пакуль, як сказаў дэпутат С.Антончык, "выпускание пара продолжается. Состояние политических галлюцинаций овладевает залом". Але гэты спектакль мы на "біс" не выклікалі. Хацелася б чаго-небудзь новенькага.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**P.S. Вось нарэшце і навіна. Дэпутаты ратыфікавалі пакет пагадненняў аб эканамічным саюзе з Расіяй, далучэнні да рублёвай зоны і як вынік прагаласавалі за аб'яднанне грошай. Перад няшчаснымі беларускім "зайцам" загарэўся сігнал "стоп", а зялёнае святло — расійскаму рублю.**

**Вядома, што дзецям вельмі часта ў чужых хатах усё здаецца больш прывабным, чым дома, нават цукеркі там больш салодкія. А раптам і тут праява таго дзіцячага сіндрому (праўда, у дачыненні да дарослых), калі чужое смачнейшае за сваё!**

# БАРОМЕТР "МІГРАЦЫЙНАГА НАДВОР'Я"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— А ці ўсіх, хто прыязджае да нас, можна лічыць бежанцамі!**

— Канешне, не. Пад гэтай маркай едуць усе, і вось тут і ўзнікаюць новыя праблемы. Мяркуйце самі: 90 працэнтаў бежанцаў не маюць жылля, многія з іх апынуліся ў такім цяжкім становішчы, што згодны жыць нават у забруджаных Чарнобылем раёнах. Але пры гэтым можна сустрэць і такую інфармацыю: у Мазырскі раён прыбылі 72 грамадзяніны Арменіі, якіх адразу ж прапісалі, знайшлі жыллё і працу. Я днямі размаўляў з адным такім грузінскім бежанцам. На маё пытанне — чым збіраецеся займацца? — ён адказаў: гандлем, бізнесам. І гэта гаворыць чалавек, які кінуў у Грузіі ўсю сваю маёмасць і без сродкаў апынуўся на тэрыторыі чужой дзяржавы! У той жа час прыехаўшыя сюды беларусы часам страчваюць нават надзею якнебудзь уладкавацца на сваёй гістарычнай радзіме. Ва ўсім свеце сёння ўводзяцца абмежаванні на прадастаўленне статуса бежанца. Справа ў тым, што той, хто гэты статус атрымаў, карыстаецца амаль тымі ж правамі, што і жыхар прымаючай краіны. Таму вельмі многія іміграны і імкнуцца выкарыстаць такую магчымасць. Каб не прадастаўляць статус бежанца ўсляпую, ва ўсіх замежных пасольствах ёсць людзі, якія вывучаюць сітуацыю ў краіне знаходжання, каб ведаць, сапраўды ў гэтым рэгіёне чалавеку пагражае небяспека ці не. Мы гэтага не робім, што вельмі ўскладняе сітуацыю.

**— Чым усё гэта пагражае Беларусі!**

— З-за свайго геаграфічнага становішча наша рэспубліка можа стаць сапраўдным адстойнікам, у якім будуць асядаць усе, хто не змог перасячы мяжу, хто ўцёк ад вайны, вярнуўся на радзіму. Гэта, у сваю чаргу, абвастрае крымінагенную абстаноўку. А як жа ж інакш, калі ў рэспубліцы знаходзяцца сотні тысяч людзей, дзейнасць якіх ніхто не кантралюе? Ды і ўвогуле, як паказвае сусветны вопыт, там, дзе збіраецца шмат бежанцаў, заўсёды ўзнікае ўзрыванебяспечнае становішча. Ну і многія з гэтых людзей проста добра ведаюць, што ў Беларусі яшчэ не праводзілася прыватызацыя, і яны, між іншым, таксама рыхтуюцца да яе...

**— Але ж едуць не толькі да нас, беларусы таксама зараз імкнуцца на Захад...**

— Гэты працэс мае два бакі: з аднаго, знешнепрацоўная міграцыя дапаможа вырашыць праблему беспрацоўя, да таго ж гэта адзін са шляхоў павысіць свой прафесійны ўзровень, пазнаёміцца з новымі тэхналогіямі, каб пасля выкарыстаць свае веды тут. З другога боку, наш чалавек можа апынуцца там ва ўмовах такой жорсткай канкурэнцыі, якую ён проста не вытрымае. Бывае і так, што высокакваліфікаванаму спецыялісту даводзіцца працаваць чорнарабочым. Апошнім часам сталі стварацца шматлікія пасрэдніцкія фірмы, якія прапануюць маладым людзям працу за мяжой, добрыя заробкі і іншыя даброты. Аднак гэтыя структуры дзейнічаюць без ліцэнзій і дазволу, у іх няма і не можа быць ніякіх кантрактаў, і замест прэстыжнай працы за мяжой дзяўчаты аказваюцца ў танных стрыптыз-барах і публічных дамах. Мы ведаем, што ёсць ужо добра адпрацаваныя каналы экспарту нашых дзяўчат у Кітай, Японію, Польшчу, Грэцыю, Італію. Аднак гэта не тыя каналы, па якіх мы выйдзем у цывілізаваны свет.

**— Уладзімір Якаўлевіч, як вы лічыце, чым выклікана такая вялікая цікавасць да Беларусі з боку міграцыйных службаў Еўропы!**

— Беларусь зараз — гэта акно ў Еўропу, праз якое на Захад ужо ідзе хваля мігрантаў, і ў бліжэйшы час яна будзе нарастаць. Ад міграцыі з былога Савецкага Саюза ім не схавацца нават за самым высокім плотам, таму што існуе шмат спосабаў нелегальна трапіць на тэрыторыю любой краіны. Да таго ж, на Беларусі можна паспрабаваць адпрацаваць метады абароны ад масавай міграцыі, якую яны чакаюць, але ж, па-мойму, пакуль што не могуць да канца ўявіць сабе яе маштабаў.

Прыкладна так на гэтае маё пытанне адказаў праз два дні старшыня канферэнцыі спадар Джонас Відгрэн:

— Сёння Беларусь для нас — гэта барометр, па якому можна прасачыць змены "міграцыйнага надвор"я" на тэрыторыі ўсяго былога СССР, скласці прагноз на будучыню. Таму нас сёння цікавіць любая інфармацыя, звязаная са становішчам бежанцаў у вашай краіне. Да таго ж, Беларусь пры спрыяльных умовах магла б хутка выйсці на ўзровень еўрапейскай краіны, і праблемы міграцыі, якія сёння існуюць у вас, вельмі падобныя на нашы.

Уласна кажучы, усе прыведзеныя вышэй факты і леглі ў аснову даклада беларускай дэлегацыі. Можна без усялякага перабольшвання сказаць, што ён выклікаў цікавасць удзельнікаў канферэнцыі. Напэўна, таму, што ў іншых краінах Еўропы гэтыя праблемы ўжо даўно вырашаны, а таму нашы цяжкасці для іх — амаль што экзотыка. А для нас іх метады і шляхі пакуль што недаступныя, хаця б таму, што ў цяжкім становішчы, якое склалася ў рэспубліцы, міграцыйная служба не мае дагэтуль галоўнага інструмента сваёй дзейнасці — міграцыйнага заканадаўства. Гэтым мы, дарэчы, як нам і ўласціва, яшчэ раз здзівілі Еўропу, самі ж не здзіўляемся ўжо нічому...

І ўсё ж карысць ад удзелу ў такіх мерапрыемствах відавочная, бо дзе, як не на прадстаўнічых міжнародных канферэнцыях, набываць такі неабходны нам сёння вопыт, дзе яшчэ можна напрамую звярнуцца з пытаннямі да кіраўнікоў міграцыйных службаў самых розных краін.

Канферэнцыя паказала, што ў нечым праблемы Беларусі і Заходняй Еўропы супадаюць. Але калі па праблемах і іх значнасці мы ўжо выйшлі на еўрапейскі ўзровень, то да паспяховага вырашэння і выхаду з цяжкага становішча нам да іх яшчэ далёка...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Святыя месцы... Іх не так ужо многа на нашай грэшнай Зямлі.**

**На стыку Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, на тэрыторыі Слонімскага раёна, размешчаны славуты ва ўсім праваслаўным свеце Жыровіцкі манастырскі комплекс. У яго ўваходзяць шэраг сабораў і цэркваў, сам манастыр, вучэбныя памяшканні Мінскай духоўнай семінарыі, келлі, дзе жывуць манахі і семінарысты. Для Беларусі Жыровічы — месца святасці і пакланення.**

**Стрыжань усяго комплексу — манастыр, заснаваны ў 1490 годзе на месцы, дзе было з'яўшча Цудатворнай Божай Маці. Спачатку тут пабудавалі капліцу, драўляную царкву, а потым і ўвесь комплекс. Многія стагоддзі ён быў святым прыстанкам. Аднак у гады савецкай улады тут многае было разрабавана, у пабудовах комплексу размясціліся майстэрні па рамонту машын. Тады ж былі апаганены многія святыні манастыра. Дажывалі свой век апошнія манахі і манашкі, усё прыходзіла ў заняпад.**

**І толькі ў апошняе дзесяцігоддзе тут зноў пачалося адраджэнне. Манастыру былі аддадзены некалі адабраныя памяшканні і часткова землі. У 1989 годзе пачала функцыяніраваць семінарыя, у якой на вочным і завочным аддзяленнях па пяцігадовай праграме займаюцца цяперашнія і будучыя свяшчэннікі, атрымліваючы вышэйшую тэалагічную адукацыю. У асноўным тут рыхтуюць служыцеляў для царкоўных прыходаў Беларусі. Але сярод слухачоў ёсць маладыя людзі і з Расіі, Літвы, Малдовы, Эстоніі.**



**НА ЗДЫМКАХ: група семінарыстаў з Брэсцкай вобласці; манашка ІРЫНА родам з Пружанскага раёна. Прыйшла сюды дзесяць гадоў назад, калі ёй было крыху больш за дваццаць; у адной з аўдыторый семінарыі. На пярэднім плане — семінарыст з Літвы Віталій КАРЫКАЎ.**

**Фота Э. КАБЯКА.**



## СТАРАЎСЯ БЫЦЬ БАЦЬКАМ І НАСТАЎНІКАМ

Ян Боска — гэта вялікі святы XIX стагоддзя. Усё сваё жыццё ён прысвяціў самаахвярнаму служэнню людзям. Для кожнага маладога чалавека стараўся быць бацькам, настаўнікам і дарадчыкам. Ян Боска ніколі не звяртаў увагі, якой ідэалогіі трымаецца чалавек, на першым месцы ў святога быў сам чалавек і яго вечнае збаўенне. Каб лепш рэалізаваць свае прынцыпы выхавання, ксёндз Ян Боска арганізаваў спецыяльныя Законныя Таварыствы. Іх галоўнай мэтай і задачай было выхаванне моладзі ў духу веры і патрыятызму, любові да сваёй Айчыны. У 1934 годзе Ян Боска быў кананізаваны.

Паслядоўнікаў кс. Боскі сталі называць салезыянамі. Яны працуюць больш чым у 80 краінах свету, у тым ліку і ў Беларусі.

Пра святога Яна Боску напісаў аповесць Аўгустын Орфэй. Яна так і называецца "Святы Ян Боска". Упершыню на беларускую мову гэтую аповесць пераклалі гарадзенскія літаратары Алесь Чобат і Данута Бічэль-Загнетава. Асобнаю кнігаю, накладам у 20 тысяч паасобнікаў, аповесць па-беларуску аддрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні. Ва ўступным невялікім слове ксёндз Ігар Лашук адзначыў, што "пераклад вельмі добры, мова зразумелая і лёгкая для чытаньня".

Хочацца спадзявацца, што аповесць А. Орфэя "Святы Ян Боска" зацікавіць не толькі вернікаў-хрысціян, але і настаўнікаў, моладзь і нават дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

З НАШАЙ ПОШТЫ

# ПАСТАНАВІЛІ, ЗАЦВЕРДЗІЛІ І... МАХНУЛІ РУКОЙ!

20 верасня споўнілася роўна 3 гады, як была зацверджана пастановай Савета Міністраў БССР "Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР". Калі я пазнаёміўся з ёю па гарачых слядах, у 1990 годзе, ўжо тады ў мяне ў сэрцы закраўся сумнiў, што яна будзе выконвацца: занадта многа дэкларацый, пажаданняў, прыгожых слоў... і што маем сёння ўжо выкананым з гэтай Праграмы? Давайце пройдземся па яе зместу.

9 дзён, праведзеных у ліпені ў Мінску (спачатку ўдзельнічаў у рабоце Першага з'езда беларусаў свету, а потым тры дні наведвання сваякоў, знаёмых, рэдакцый газет, часопісаў, абласнога (мінскага) радыё) упэўнілі мяне, што Праграма не толькі не выконваецца, а хутчэй, наадварот, робіцца ў Рэспубліцы Беларусь усё магчымае, каб пахаваць яе, а разам з ёю ўсю справу Беларускага Адраджэння. Дарэчы, гэта не толькі мая думка: мяне падтрымліваюць многія беларусы з Украіны, якія, як і я, былі дэлегатамі з'езда і маглі сваімі вачамі пабачыць працяг русіфікацыі, а ў Заходняй Беларусі (прынамсі, на Гарадзеншчыне!) яшчэ і распачатую паланізацыю католікаў-беларусаў... Я не маю нічога супраць ні рускай, ні польскай моў, але калі са старонак рускамоўных і польскамоўных выданняў незалежнай дзяржавы, якой сябе аб'явіла на ўвесь свет Беларусь, раз-пораз льецца бруд на дзяржаўную мову рэспублікі, арганізоўваюцца кампаніі "чытачоў" за наданне мове суседняй дзяржавы статуса другой дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, пачынаю сумнявацца не толькі ў памянёнай Праграме, але і ў сумленнасці яе стваральнікаў: пускаць пыл у вочы ў час панавання КПСС-КПБ у Беларусі навучыліся, бадай, лепей за іншых, нездарма ж і мянушку далі — Вандэя!

Але вернемся да аб'екта нашай размовы — "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых моў у БССР". Пералічваць пункты першага раздзела няма патрэбы, бо ўсе, хто цікавіцца роднай моваю, ведаюць іх, чыталі Праграму, не маглі не чытаць! А вось па другім раздзеле можна сказаць наступнае: на 1990—1991 гады Праграмай прадпісвалася выканкомам Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам рэспублікі забяспечыць афармленне тапанімічных назваў, назваў установаў, прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару на беларускай мове. Паглядзіце ўважліва навокал у сталіцы (не кажу ўжо пра правінцыю, дзе ўсё застаецца на ўзроўні 70—80 гадоў, на рускай мове), і вы ўпэўніцеся, што выконваецца гэта патрабаванне працэнтаў на 30-40, не больш! Не масава яшчэ афармляюцца па-беларуску таварныя знакі, сродкі маркіроўкі тавараў, этыкеткі, інструкцыі аб карыстанні таварамі... Па-ранейшаму паштовыя штэмпелі "гавораць" нам тут, на Украіне, што мы атрымліваем пісьмы ці паштоўкі віншавальныя не з суверэннай Беларусі, а з абласных ці раённых гарадоў расейскай часткі... СССР! Ці не пара ўжо памяняць паштовыя штэмпелі на новыя, каб там была напісана па-беларуску назва населенага пункта, а таксама ж па-беларуску і па-ангельску назва дзяржавы, да якога ж часу можна лічыць сябе ўсё яшчэ нейкай міфічнай часткай неіснуючага ўжо СССР?!

Выпуск жа паштовых марак змаглі наладзіць, дык што ж перашкаджае памяняць паштовыя штэмпелі?

Пад пунктам 8 другога раздзела Праграмы чытаем: лічыць мэтазгодным перавесці з рускай мовы выдання на беларускую раённыя і абласныя газеты, а таксама рэспубліканскія "Сельская газета", "Физкультурник Белоруссии", бюлетэнь "7 дней", часопіс "Сельское хозяйство Белоруссии" і іншыя галіновыя выданні. Тэрмін выканання пазначаны 1990—1993 гадамі. І што ж мы бачым на самай справе? Усё шыварат-навыварат! Не рускамоўныя газеты і часопісы пачалі пераходзіць на беларускую мову, а наадварот, усё болей і болей беларускамоўных выданняў становяцца "двухмоўнымі": на беларускай мове падаецца назва выдання, 10—20 працэнтаў малацікавых матэрыялаў, а ўсё астатняе — на мове ўсходняга суседа! Дажыліся, нічога не скажаш: бачыў на свае вочы нумары "Мінскай праўды", "Магілёўскай праўды", іншых суперінтэрнацыянальных выданняў, разлічаных чамусьці на... беларусаў! А чаму б не прыцягнуць да карнага спагнання з рэдактараў такіх самавольных выкрутасаў з дзяржаўнай мовай? Знялі б з працы аднаго-другога, а потым вярнулі б выданне на дзяржаўную мову, глядзіш, і прапала б ахвота ў некаторых рэдактараў вылузвацца са скуры ў шэльмаванні беларускай мовы. А калі і надалей будзе нешта падобнае тварыцца, то мы хутка будзем мець на беларускай мове 5—6 газет на 10 мільёнаў беларусаў, а гэта ўжо будзе вялікай ганьбай для нацыі. Таму, каб такога не здарылася, трэба неадкладна абавязаць усе газеты, часопісы, якія выходзілі ў БССР па-беларуску, і ў РБ выходзіць толькі па-беларуску! А што тычыцца газеты для сельскіх жыхароў (яна зараз стала называцца "Белорусская нива"), то калектыў рэдакцыі пара ўжо прыцягнуць да адказнасці за русіфікатарскую дзейнасць: гэта ж гэтулькі гадоў выдаваць сваю газету за жывога носьбіта беларушчыны на чужой ім мове! Да якога часу будзе яшчэ працягвацца гэты здзек?! Няўжо нам, беларусам блізкага і далёкага замежжа, трэба звярнуцца ў ЮНЕСКА ці ААН, каб гэтыя ўплывовыя арганізацыі паўшчувалі русіфікатараў, што няможна людзям, якія размаўляюць па-беларуску, прывіваць "любоў" да мовы суседняй дзяржавы?! Відаць прыйдзецца: мы ўжо аб гэтым у кулуарах з'езда гаварылі...

Што тычыцца іншых пунктаў другога раздзела Праграмы, а іх дванаццаць, не выконваюцца і яны: як не было ў продажы пішучых машынак з беларускім шрыфтам, так і няма і г.д.

Хочацца закрануць адну праблему з трэцяга раздзела, які тычыцца выкарыстання беларускай мовы ў рабоце ўстаноў адукацыі і культуры. Як я працую ў сістэме адукацыі, то павяду гаворку менавіта ў гэтым накірунку. На лекцыях ва універсітэце нам "трубілі", што руская, украінская і беларуская мовы вельмі падобныя, і прадстаўнікі гэтых народаў могуць добра разумець адзін аднаго, не вывучаючы чужую мову: гэта значыць, што рускія людзі могуць разумець беларусаў і ўкраінцаў, не вывучаючы іхніх "мужыцкіх" моў, а вось мужыкі (беларусы і ўкраінцы) павінны вывучаць не адзін год рускую мову, каб "разумець рускіх". Нейкі парадокс атрымліваўся, ці не так? У гэтым годзе ўкраінцы вырашылі скончыць з такім нераўнапраўем: раз рускія не вывучаюць украінскай мовы (маю на ўвазе ў школах і ВНУ Расіі), то і мы, украінцы, перастаём вывучаць яе ўжо з 1 верасня 1993 года. Курс "Руская мова" выведзены з навучальных планаў школ з украінскай, польскай, румынскай і венгерскай мовамі навучання для абавязковага вывучэння. Яна ўвайшла ў неабавязковы цыкл прадметаў (іх тут аж 16, а выбраць з іх дазваляецца толькі 2!). Можна сабе ўявіць, колькі знойдзецца "ахвотнікаў", якія захочуць яе вывучаць па свайму жаданню!.. А што ж браткі-беларусы?! Тут усё захоўваецца на сваіх месцах: у школьных праграмах абедзвюм мовам — роўныя правы, абавязковае вывучэнне не толькі дзяржаўнай, але і... рускай!

Ці не пара пайсці ў моўнай палітыцы шляхам украінцаў: рускую мову ў беларускамоўных школах вучні павінны вывучаць толькі па свайму жаданню, факультатыўна.

А як беларуская мова ўжываецца ва ўстановах культуры, дастаткова глянуць толькі на адны сталічныя кінатэатры, Дамы і Палацы культуры! Дасюль красуюцца шыльды па-руску на кінатэатрах, большасць кінаафіш па-ранейшаму пішуцца на недзяржаўнай мове, асабліва гэта прыкра бачыць на сценах кінатэатра "Беларусь".

Не буду закранаць раздзела "Выдавецкая дзейнасць" па прычынах, усім нам добра вядомых, — адсутнасці паперы і іншых кампанентаў, неабходных для паліграфічнай дзейнасці (вытворчасці).

У 5-м раздзеле Праграмы пад пунктам II сказана: "Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў перыядычна разглядаць ход выканання Дзяржаўнай праграмы, прымаць неабходныя захады па своечасоваму ажыццяўленню праграмы і пры неабходнасці ўносіць прапановы па яе ўдасканаленню і па яе дапаўненню". Як кажуць, каментар лішні! Няма ніякай перыядычнасці "разглядання" ходу выканання праграмы, таму што яна не выконваецца на ўсіх узроўнях улады, пачынаючы ад самога Савета Міністраў Беларусі, міністэрствы якога працягваюць працаваць на рускай мове, за рэдкім выключэннем: Міністэрства культуры, адукацыі, інфармацыі, з нацяжкай — сувязі і інфарматыкі. Вось і ўсе "эшалоны", дзе ёсць кволыя парасткі беларускага адраджэння, дзе калі сам міністр у паўсядзённым быце і не карыстаецца дзяржаўнай мовай, дае змогі сабе гаварыць на ёй з беларускамоўным наведвальнікам. У час работы "круглага стала" "Беларуская дыяспара" мне давялося не толькі пачуць з вуснаў міністраў Гайсёнка і Бутэвіча беларускую мову з трыбуны, але і паразмаўляць з імі па-беларуску, што пакінула ў маёй душы прыемны ўспамін — ёсць жа вось разумныя міністры!

Дык што ж, шаноўнае спадарства, будзем рабіць? Як прымусіць абруселых чыноўнікаў-беларусаў, а таксама прышлых з Усходу, якія ў большыні сваёй займаюць ключавыя пасады ва ўсіх эшалонах улады на Беларусі, працаваць не ва ўрон Адраджэнню, а на яго?! Хто дасць на гэта адказ?

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў, Украіна.

ДА 50-годдзя ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ



"Золотое бабье лето
Оставляя за собой,
Шли войска — и вдруг с рассвета
Наступил Днепровский бой"...

**Так пісаў А. Твардоўскі аб адной з гераічных старонак Вялікай Айчыннай — бітве за Днепр. Войскі Цэнтральнага фронта, што ажыццяўлялі наступленне, на подступах да Гомеля былі прыпынены. Вось тады і было вырашана стварыць бачнасць баёў у міжрэччы Сожа і Дняпра ў 20 кіламетрах на поўдзень ад Гомеля. Асноўныя ж сілы былі перакінуты ў раён Лоева. Пасля пяцісутачнай напружанай падрыхтоўкі на досвітку 15 кастрычніка пачалося фарсіраванне Дняпра. Аперацыя, якой камандаваў генерал арміі К. Ракасоўскі, прайшла паспяхова. Пасля непрацяглых баёў быў захоплены зручны плацдарм для далейшага наступлення.**

**Нядаўна на Гомельшчыне ва ўрачыстай абстаноўцы быў адзначаны юбілей гэтай бітвы.**

**НА ЗДЫМКАХ: парад воінаў-вызваліцеляў — удзельнікаў баёў за Лоеўскі плацдарм; тут праходзіла аперацыя па фарсіраванню Дняпра.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**



## ЦЭНТР УКРАІНАЗНАЎЧЫХ І БЕЛАРУСАЗНАЎЧЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Інстытутам славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук арганізаваны Цэнтр украіназнаўчых і беларусазнаўчых даследаванняў, які ўзначальвае доктар філалагічных навук Юрый Лабынцаў. Асноўнай сваёй задачай цэнтр ставіць стварэнне новых накірункаў даследчых работ.

У бліжэйшы час намячаецца наладзіць пастаянныя кантакты з адпаведнымі навуковымі ўстановамі іншых краін, у тым ліку Украіны і Беларусі, распрацоўваючы і рэалізуючы сумесныя праекты, ствараючы сумесныя часовыя навукова-даследчыя калектывы, выпускаючы сумесныя выданні, праводзячы міжнародныя сімпозіумы, семінары, школы. Мяркуецца ажыццяўляць шырокую навукова-папулярызатарскую дзейнасць, накіраваную на азнаямленне грамадзян Расіі і іншых дзяржаў, у тым ліку Украіны і Беларусі, з інфармацыяй па гісторыі гэтых краін і іх узаемаадносін з Расіяй.

Каб намечаная праграма была як найхутчэй рэалізавана, у найкарацейшы тэрмін мяркуецца засяродзіць асноўныя намаганні на даследаванні такіх асабліва актуальных тэм, як, напрыклад, этнагенез і гісторыя самасвядомасці ўкраінскага і беларускага народаў; гісторыя Вялікага Княства Літоўскага і Люблінская унія 1569; гісторыя ўкраінскай і беларускай культур; гісторыя сацыяльных, навуковых, рэлігійных і палітычных адносін паміж Беларуссю, Украінай, Расіяй і паміж Польшчай, Украінай, Беларуссю, Літвой.

Плануецца таксама выданне зборнікаў дакументаў, даведнікаў, паказальнікаў, вучэбных дапаможнікаў, навукова-папулярных кніг, перавыданне каштоўных класічных прац па данай праблематыцы.

**Вядомы дзяржавазнаўца і сацыёлаг доктар юрыдычных навук Вадзім Андрэевіч КРУТАЛЕВІЧ — даўні аўтар нашай газеты. У мінулым з высокіх трыбун і ідэалагічных інстанцый яго абвінавачвалі ў адступленнях ад афіцыйных установак у пытаннях самавызначэння Беларусі і нацыянальнага руху. Аднак і сёння, ужо ў іншых умовах, верны толькі фактам, даследчык не схільны слепа прытрымлівацца модных павеваў у гістарыяграфіі. Плюралізм і барацьба думак — шлях да ісціны, лічыць вучоны. Спадзяёмся, што і гэты палемічны па духу матэрыял аб мінулых і сучасных праблемах дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі прыцягне ўвагу чытача.**



*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ, або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

## 1. ПРЫХІЛЬНІКІ І ПРАЦІЎНІКІ

Упершыню за 75 гадоў дата аб'яўлення незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года ўдастоілася быць адкрыта адзначанай у Беларусі. У лютым 1993 года дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, вучоныя, пісьменнікі (сярод іх найаўтарытэтнейшыя імёны) у колькасці 65 чалавек абнародавалі зварот "Да грамадзян Рэспублікі Беларусь" з заклікам адзначыць 75-ю гадавіну ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) як адну з самых знамянальных дат у гісторыі беларускага народа. Узнік і арганізацыйны камітэт з адпаведнымі задачамі ("Звязда", 1993, 4 сакавіка).

Як вядома, такое свята афіцыйна ў нас пакуль не ўзаконена. 27 ліпеня адзначаецца Дзень незалежнасці. Дата вартая ўвагі, бо ў гэты дзень у 1990 годзе Вярхоўным Саветам была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Заканадаўчае замацаванне "чырвоных дат" не выключае, аднак, таго, што ў вольным грамадстве могуць быць незалежныя меркаванні аб гістарычных падзеях, дастойных высакароднай памяці нашчадкаў. І сапраўды, хто можа забараніць тым ці іншым грамадскім колам у рамках закона выказваць свае станоўчыя ці, наадварот, негатыўныя адносіны да той ці іншай падзеі мінулага? Гэта супярэчыла б палітычнаму плюралізму, узаконенай шматпартыйнасці і іншым свабодам.

Заклік 65-ці дастойна адзначыць гадавіну БНР у сваіх заявах энергічна падтрымаў Выканком Беларускай Сацыял-дэмакратычнай грамады, які расцэньвае абвяшчэнне незалежнай БНР у якасці паваротнага пункта ў гісторыі беларускага народа ("Народная газета", 1993, 12 і 14 сакавіка). У сваю чаргу Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў (прысутнічала звыш 300 чалавек) таксама заклікала грамадскасць рэспублікі адзначыць акт абвяшчэння БНР, які мае "вялікае гістарычнае значэнне ў лёсе беларускага народа" ("Грамада", 1993, сакавік, № 1).

Пазней газеты апублікавалі пісьмо 148 работнікаў рэспубліканскай Акадэміі навук, якія звярнуліся да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі з прапановай узаконіць 25 сакавіка ў якасці ўсенароднага нацыянальнага свята ("Народная газета", 1993, 20 сакавіка).

Але пачуліся і пратэстуючыя галасы, якія ацэньваюць Акт 25 сакавіка 1918 года зусім у іншым святле. У пісьме пад загалоўкам "25 сакавіка: чыё гэта свята?" 43 яго абураныя аўтары — Героі Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы, акадэмікі, дэпутаты, вучоныя-гісторыкі, настаўнікі і іншыя разглядаюць юбілей БНР як свята "апалагетаў капіталізму". На іх думку, "прыхільна ставіцца да святкавання 75-й гадавіны БНР могуць цяпер толькі тыя, хто не прызнае выдатных дасягненняў беларускага народа за гады Савецкай улады, хто хоча зноў надзець на наш народ ярмо капіталістычнай эксплуатацыі, каму падабаецца з'яўленне на Беларусі мільянераў і мільярдэраў, каго не хвалюе галеча і беспрацоўе рабочых і сялян нашай рэспублікі" ("Народная газета", 1993, 12 сакавіка).

Звернутыя, здавалася б, у мінулае названыя дакументы з'яўляюцца па сутнасці акцыямі, якія адлюстроўваюць сутыкненне палітычных сіл вакол сучасных праблем грамадскага і дзяржаўнага ладу Беларусі.

Сакавіцкія падзеі 1918 года былі прадметам абмеркавання канферэнцыі, "круглых сталоў", "навуковых акадэмій". Не застаўся ў баку перыядычны друк.

Прыхільнікі юбілею (назавём іх так), надаючы асаблівую значнасць акту абвяшчэння незалежнасці БНР, прапанавалі па-новаму, нетрадыцыйна паглядзець на вытокі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці і, значыць, даць іншую ацэнку палітычным дзеячам і арганізацыям, якія маюць дачыненне да нацыянальна-адраджэнскага руху, аддаць належнае тым, хто не шкадуючы сіл змагаўся "за вольную, суверэнную, незалежную Беларусь".

Актыўны ўдзел грамадскай думкі ў пераацэнцы гісторыі — прыкмета нашых бурных дзён. Важна толькі, каб, жадаючы дагадзіць палітычным кан'юнктурным меркаванням, не скажалася гістарычная ісціна.

Заявы палітычных арганізацый, дзяржаўных дзеячаў, прадстаўнікоў грамадскасці, выказванні асобных вучоных мужоў і цэлых навуковых форумаў з нагоды юбілею заслугоўваюць уважлівага аналізу. Барацьба думак, якая нараджае ісціну, карысная і неабходная для ўсведамлення характару падзей, вызначэння падыходаў у ацэнцы пачатковага этапу дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі.

Нагадаем: нешта падобнае адбываецца ў іншых рэспубліках, што раней уваходзілі ў СССР. У суседняй Літве пачатковая гісторыя нацыянальнай дзяржаўнасці звязваецца з утварэннем Літоўскай тарыбы, узнікшай ва ўмовах нямецкай акупацыі і прызнанай у якасці дзяржаўнага інстытута нямецкімі ўладамі. У Грузіі рэабілітаваны этап гісторыі, звязаны з існаваннем дзяржаўнасці на чале з сацыял-дэмакратамі. На Украіне аддадзена належнае Украінскай Народнай Рэспубліцы і яе заснавальнікам.

Гісторыя барацьбы за беларускую дзяржаўнасць пастаянна прыцягвала ўвагу гісторыкаў і дзяржавазнаўцаў, пра што сведчаць многія публікацыі і кола закранутых у іх праблем. Многія пытанні, на наш погляд, высветлены з дастатковай глыбінёй. У той жа час пад уздзеяннем пануючай ідэалогіі замацоўваліся стэрэатыпы, што адыгрывалі ролю "вымяральнікаў" праўдзівасці асвятлення гістарычнага працэсу. Аўтарытарны рэжым, які не дапускаў іншадумства, заахвочваў апалагетыку, вызначаў галіны, куды не павінна была ўрывацца творчая думка, ставіў даследчыка ў даволі складанае становішча. Пры жорсткім ідэалагічным кантролі даследаванні аб праціўніках Кастрычніцкай рэвалюцыі нязменна прымалі выкрывальны характар. Сама логіка развянчання "класавага ворага" падводзіла да ўтойвання таго, што, на думку цэнзуры, дыскрэдытавала кіруючую партыю і савецкую ўладу, да прыхарошвання і лакіроўкі рэчаіснасці, з'яўлення закрытых тэм, засакрэчанасці "непажаданых" дакументаў.

Важныя навуковыя катэгорыі — нацыянальнае і інтэрнацыянальнае, нацыянальнае і нацыяналістычнае ў дачыненні да канкрэтнай рэчаіснасці тлумачыліся аднолінейна: прагрэсіўнае тое, што служыць дыктатуры пралетарыяту, сусветнай рэвалюцыі, адпавядае генеральнай лініі камуністычнай партыі і яе нацыянальнай палітыцы. Пры такім падыходзе можна было лёгка апраўдаць як законныя акцыі масавае знішчэнне інтэлігенцыі ў нацыянальных рэгіёнах, высяленне цэлых народаў з месцаў іх традыцыйнага рассялення, стварэнне штучных нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў, адвольнае вызначэнне этнічных межаў, дэмакратычныя праявы нацыянальнага руху аднесці да разраду нацыяналістычных і г.д.

## 2. УЛАДА — ГАЛОЎНЫ АБ'ЕКТ ПРОЦІБОРСТВА

Але вернемся да асноўнага сюжэта. Хай прабачыць нам чытач за банальнасць — яна прыйшлася да слова: нельга колькі-небудзь аб'ектыўна ацаніць тую ці іншую гістарычную падзею без уліку прычынна-следчых сувязей з фактарамі і ўмовамі, якія яе нарадзілі. Дэкларацыі, лозунгі, палітычныя акцыі, штучна адасобленыя ад "гістарычнага асяроддзя", вырваныя з кантэксту гістарычнага працэсу, лёгка паддаюцца адвольнай інтэрпрэтацыі. Таму ніякі палітычны рух, а тым больш звязаны з нацыянальным самавызначэннем, нельга не разглядаць як арганічную частку агульнага працэсу барацьбы за дзяржаўную ўладу, за ўсталяванне тых ці іншых асноў грамадскай арганізацыі.

Станаўленне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці характарызавалася жорсткім проціборствам палітычных сіл, кожная плынь з улікам становішча, ступені ўласнага аўтарытэту выпрацоўвала стратэгію і тактыку сваіх паводзін. Акрамя таго трэба было ўлічваць асобыя спецыфічныя ўмовы, у якіх апынулася Беларусь у 1917—1920 гадах. Край быў падзелены лініяй фронта першай сусветнай вайны, двойчы падвергся акупацыі — спачатку нямецкай (1918 год), затым польскай (1919—1920 гады).

Кастрычніцкі пераварот у Беларусі і на Заходнім фронце, што даў уладу ў рукі бальшавікоў, у цэлым прайшоў бяскроўна. Дэмаралізаваныя Стаўка вярхоўнага камандавання ў Магілёве, штаб Заходняга фронта ў Мінску і адміністрацыя Часовага ўрада ў беларускіх губернях былі не ў стане аказаць якое-небудзь сур'ёзнае супраціўленне бальшавікам, на бок якіх у сваёй масе перайшла армія, дзе фактычная ўлада апынулася ў руках ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў. Лозунгі бальшавікоў аб міры, зямлі, усеўладдзі Саветаў, абяцанні лепшага жыцця і сапраўднай свабоды пасля звяржэння панавання эксплуататараў прымаліся простым людам гарадоў і вёсак з адабрэннем. У даволі кароткі тэрмін у Беларусі ўзнікла сістэма рэўкомаў і Саветаў на чале з Выканаўчым Камітэтам Саветаў Заходняй вобласці і фронта (Аблвыкамзахам) і з мясцовым па петраградскаму ўзору ўрадам — Саветам Народных Камісараў. Палавіна месцаў у Выкамзаху належала арміі, іншыя — прадстаўнікам гарадскіх і сялянскіх Саветаў.

Польскі корпус генерала І. Доўбар-Мусніцкага, які быў сфарміраваны яшчэ пры Часовым урадзе і не прызнаў новую ўладу, быў, бадай, адзінай сур'ёзнай ваеннай сілай на тэрыторыі Беларусі, здольнай супраціўляцца Чырвонай гвардыі і іншым савецкім ваенным фарміраванням.

З узяццем улады само становішча патрабавала ад новага дзяржаўнага кіраўніцтва Расіі неадкладных дзеянняў, якія б тычыліся сферы нацыянальных адносін. Рэвалюцыя "дашчэнту" руйнавала старыя асновы жыцця. Але ў гэтай сферы запатрабаваліся асобыя падыходы і асцярожнасць. Бальшавікі, якія кінулі на злом старую дзяржаўную машыну, аддалі анафеме буржуазны парламентарызм і буржуазную "лжэдэмакратыю" з яе шматпартыйнасцю і ўсеагульным выбарчым правам, аднак як належнае ўспрынялі дэмакратычны, народжаны ў барацьбе за нацыянальную незалежнасць прынцып права нацый на самавызначэнне і ў вядомай Дэкларацыі правоў народаў Расіі ад 2/15 лістапада 1917 года далі паслядоўна дэмакратычную трактоўку гэтага пачатку. Дэкларацыя абвясціла "права народаў Расіі на вольнае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы", аб'явіла гарантыі правоў нацыянальных меншасцей. Гэтым самым бальшавікі заявілі, што яны ідуць насустрач нацыянальна-вызваленчаму руху. Дэкларацыя цалкам задавальняла праціўнікаў кастрычніцкага перавароту. Пярэчыць супраць узаконення бальшавікамі дэмакратычнага прынцыпу вольнага развіцця нацый, іх раўнапраўя ў апазіцыі не было ніякіх падстаў. Разыходжанні былі ў іншым. Справа ў тым, што мэты, шляхі, формы і сацыяльна-палітычныя асновы рэалізацыі абвешчаных нацыянальных правоў сіламі, якія проціборствавалі, разумеліся далёка не аднолькава.

Стаўшы ля дзяржаўнага руля, камуністычная партыя была далёкай ад таго, каб абсалютызаваць права нацый на самавызначэнне. Яна разглядала нацыянальнае пытанне як падпарадкаванае пытанню ўстанаўлення дыктатуры пралетарыяту ў Расіі, задачам аб'яднання рабочых і сялян былой імперыі незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці ў імя гэтай галоўнай мэты. У адпаведнасці з тэорыяй класавай барацьбы даваўся адказ і на пытанне, хто мае права выступаць ад імя нацыі як выразнік яе інтарэсаў. Такім законным суб'ектам прызнаваліся кіруемыя бальшавікамі Саветы.

Ідэолагі ж беларускага нацыянальнага адраджэння ставілі пытанне катэгарычна. Найпершая мэта — стварыць нацыянальную дзяржаўнасць. Рашэнне гэтай галоўнай задачы дазволіць перайсці затым да новага этапу — эканамічных, сацыяльных і іншых пераўтварэнняў.

Беларускі адраджэнскі рух, які ўзначальваўся Беларускай сацыялістычнай грамадой і яе саюзнікамі, сустрэў рашучае процідзеянне савецкіх улад Заходняй вобласці. Маючы рэальную ўладу, апарат прымусу, бальшавікі мелі і вялікія перавагі ў барацьбе са сваімі праціўнікамі, што імкнуліся паставіць у аснову сваёй палітыкі стварэнне нацыянальнай дзяржаўнасці. Неразвітасць нацыянальнай свядомасці беларусаў аблягчыла ім барацьбу са сваімі праціўнікамі.

Такім чынам, сілы, што змагаліся за ўладу, прытрымліваліся розных праграм у сферы дзяржаўнага будаўніцтва, па-рознаму разумелі мэты і шляхі рэалізацыі права нацый на самааддзяленне, сацыяльныя і эканамічныя асновы дзяржаўнай улады. Глыбінныя сацыяльныя матывы ў рэшце рэшт вызначалі зыходныя пазіцыі ў вырашэнні нацыянальных праблем. Адсюль жорсткасць і бескампраміснасць проціборства.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

**[Працяг будзе].**

АДБЫЎСЯ III МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ"

# ЦАГЛІНКА ДА ЦАГЛІНКІ – І ЁСЦЬ МАСТАЦТВА

"Вы зрабілі вялікую і важную справу, спалучыўшы тут, у Мінску, самыя розныя сучасныя кампазітарскія з'явы з многіх краін", — гаварыў арганізатарам III Міжнароднага фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" адзін з буйнейшых музычных маэстра сённяшняга Ізраіля, госць фестывалю прафесар Марк Капытман. І сапраўды, музычнае свята, якое праходзіла ў нашым горадзе ў першай дэкадзе лістапада, склікала і прадставіла слухачам творцаў музыкі з Расіі, Беларусі, Узбекістана, Польшчы, Фінляндыі, Галандыі, Ізраіля, Аўстрыі. Такі амбітус прыцягнёных да ўдзелу краін не выпадковы: ён абумоўліваецца канцэпцыяй-ідэяй гэтага фестывалю. А яна ўваходзіць сваімі каранямі ў музычную гісторыю зямлі беларускай, узыходзіць к тым часам, калі цэнтрамі музычнага асветніцтва і адукацыі з'яўляліся капэлы беларускіх магнатаў Радзівіла, Тызенгаўза, Агінскіх і інш.

Адрадзіць багатыя і высакародныя традыцыі тых капэл узяўся творчы калектыў сучаснай "Беларускай Капэлы" — ініцыятар і заснавальнік фестываляў "Адраджэнне беларускай капэлы". Два мінулыя (1991 і 1992) гады былі прысвечаны музыцы беларускай зямлі XVII—XVIII стагоддзяў. Ідэя сёлетняга, трэцяга — імкненне адрадзіць некаторыя прынцыпы работы капэл таго часу: будучы цэнтрамі сучаснай культуры, яны знаёмілі аматараў музыкі з самымі новымі, апошнімі творамі кампазітараў не толькі Беларусі, але і ўсёй музычнай Еўропы.

Менавіта гэта і адбылося падчас фестывальных канцэртаў. Мы былі сведкамі значнай колькасці прэм'ерных прадстаўленняў, сярод якіх і надзвычайная па чысціні, багаццю музычных рашэнняў "Missa Brevis" Фелікса Янава-Яноўскага (Узбекістан), напісаная для расійскай спявачкі Наталлі Герасімавай і ёю ж выкананая, цікавая ідэяй "...a little (crumb) of music for Georg Crumb" Фараджа Караева (Расія), многія опусы беларускіх кампазітараў, у тым ліку Яўгена Паплаўскага, кампазітара і дырэктара Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла".

Амаль што ўсе кампазітары, творы якіх гучалі ў канцэртах, былі запрошаны ў якасці гасцей на гэты фестываль і прысутнічалі ў зале. Таму мы пачулі не толькі сам твор, але ж і ўбачылі яго стваральніка — масквічоў Уладзіміра Тарнапольскага, Віктара Якімоўскага, Яфрэма Падгайца, Фараджа Караева, Зыгмунта Краўзэ, Лідзію Зяліньску, Тадэвуша Вялецкага з Польшчы, Калеві Аха з Фінляндыі, Марка Капытмана з Ізраіля, Фелікса Янава-Яноўскага з Узбекістана, многіх нашых землякоў-кампазітараў. А гэта, на мой погляд, заўсёды цікава.

Зразумела, не ўсе канцэртныя праграмы фестывалю былі аднолькава роўныя па так званай "прывабнасці" і дасканаласці, што гучала ў іх музыцы. Але ў гэтым ёсць уласныя таямніцы творчасці, натхнення, асобы аўтараў. З найбольш уразіўшых асабіста мяне адзначу аўтарскі вечар кампазітара Марка Капытмана. Музычная мова кампазітара вельмі спагадлівая, напоўненая патаемным сэнсам музычнага "слова". У аўтарскім канцэрце М. Капытмана прымала ўдзел аўстрыйская спявачка Варда Котлер, уладальніца незвычайнага драматычнага таленту і дзіўнага па багаццю тэмбраў сапрана.

Бясспрэчна, пакарыла слухачоў і ярка эмацыянальнае майстэрства фінскіх музыкантаў, якія пазнаёмілі нас з музыкай Калеві Аха, Міка Тэнсіо, Юка Хейніо. І сапраўды, не павінна была пакінуць абыякавымі творчасць цудоўнага скрыпача Кшыштафа Бакоўскага і кампазітара і кантрабасіста Тадэвуша Вялецкага з Польшчы, бо колькімі гукавымі камбінацыямі і творчымі знаходкамі напоўнена выкананая імі музыка сучасных польскіх кампазітараў!

Адзін з цікавых законаў фестывалю — аўтэнтычнасць выканання музыкі, інакш кажучы, польская музыка павінна гучаць у выкананні польскіх музыкантаў (успомнім канцэрт К. Бакоўскага і Т. Вялецкага, а таксама аўтарскі вечар прэзідэнта Польскай асацыяцыі сучаснай музыкі, прафесара Зыгмунта Краўзэ, дзе кампазітар з'яўляўся і выканаўцам сваёй музыкі), галандская — ансамблем "De Ereprijs", які прапанаваў праграму сучаснай электроннай музыкі ў Мінску і Маладзечне.

Аднак не будзе моцным перабольшаннем тое, што сапраўдным героем фестывалю стаў вядомы слухачам беларускі калектыў — ансамбль салістаў "Класік-Авангард" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў). Ён быў удзельнікам чатырох з сямі фестывальных канцэртаў камернай музыкі! Вялікая, складанейшая праграма, але ж прафесіяналізм, глыбіня і якасны ўзровень пададзенага ансамблем матэрыялу, зразумела, выклікалі цёплыя і ўдзячныя словы гасцей-кампазітараў і тых, хто зноў і зноў адкрываў для сябе майстэрства гэтых выдатных музыкантаў.

Скончыўся фестываль. Можа, пакуль яшчэ складана вызначыць яго сапраўднае месца і ролю ў нашым музычным жыцці, бо вельмі свежыя непасрэдныя ўражанні ад сустрэч, новых знаёмстваў, зносін. Але ж, напэўна, гэтыя зносіны і ёсць для ўсіх нас самае важнае, бо дораць яны дружбу, творчае супрацоўніцтва, развіццё. Успамінаюцца цудоўныя словы, якія сказаў пасля аднаго з канцэртаў маскоўскі кампазітар Фарадж Караеў: "Як цаглінка да цаглінкі будуецца дом, так і вашымі стараннямі і працай былі створаны і пабудаваны не толькі графікі канцэртаў і рэпетыцый, але і тыя асаблівыя добрыя адносіны, якія ёсць сёння тут паміж намі".

**Марына РАМЯНЮК.**

## ПАНІ ФОЛТЫН ДАМАЎЛЯЕЦЦА...

У Мінску пабывала вядомая польская спявачка і оперны рэжысёр, старшыня Таварыства сяброў Манюшкі Марыя Фолтын. Яна перадала ў нашу Акадэмію музыкі ноты польскіх кампазітараў XX стагоддзя для беларускіх удзельнікаў будучага конкурсу вакалістаў імя С. Манюшкі, прымеркаванага на красавік 95-га ў Варшаве. Дамоўлена, што пані Фолтын возьме ўдзел у журы конкурсу імя Л. Александроўскай у Мінску і правядзе майстар-клас для будучых удзельнікаў Манюшкаўскага пеўчага спаборніцтва. Адбыліся таксама перамовы з дырэктарам ДАВТ С. Картэсам ды намеснікам міністра культуры У. Рылаткам наконт запрашэння пані Фолтын у якасці рэжысёра оперы С. Манюшкі "Парыя". Калі будзе магчымасць ажыццявіць гэтую пастаноўку на беларускай сцэне ў другой палове наступнага года, то мы пабачым творчую працу М. Фолтын-рэжысёра.



**У прадпрыемствах "Саюздруку" і паштовых аддзяленнях ідзе падпіска на "Голас Радзімы" на першы квартал 1994 года. Падпісная цана на тры месяцы на тэрыторыі Беларусі — 150 рублёў.**

СЛОВА МАЮЦЬ СЯБРЫ МАБ

# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ОЛЬШТЫНЕ

7—8 кастрычніка ў Ольштыне адбылася V Міжнародная навуковая канферэнцыя на тэму: "Польска-ўсходнеславянскія культурныя, літаратурныя і моўныя сувязі". Арганізацыю яе ўзяла на сябе кафедра ўсходнеславянскіх даследаванняў Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне. У канферэнцыі прынялі ўдзел больш 60 навукоўцаў-славістаў з Польшчы ды іншых краін. Між іншым, нашымі гасцямі былі даследчыкі-славяназнаўцы з Расіі, Украіны, Балгарыі, Літвы і Латвіі. Абяцалі сваю прысутнасць і актыўны ўдзел беларускія вучоныя Адам Мальдзіс, Аляксей Каўка, Уладзімір Конан і інш., але з няведамых нам прычын не прыехалі. Нягледзячы на гэта, беларуская праблематыка была прадстаўлена даволі шырока. Нас крыху збянтэжыла і засмуціла адсутнасць прадстаўнікоў беларускага пасольства ў Польшчы. Тлумачым сабе гэты факт іх надмернай занятасцю.

У дыскусіі на канферэнцыі прынялі ўдзел вядомыя польскія славісты Рышард Лужны, Базыль Бялаказовіч і некаторыя іншыя, яны паставілі перад польскай славістыкай шэраг праблем, якія вымагаюць даследавання. Між іншым, гаварылася таксама пра патрэбу беларутэністычных даследаванняў у шырокім маштабе. Па-ранейшаму перад польскай беларутэністыкай, нягледзячы на многія ініцыятывы, паўстае шмат праблем, што вымагаюць пільнай навуковай апрацоўкі. Да прыкладу, прафесар Б.Бялаказовіч цяпер працуе над манаграфіяй аб М.Янчуку, які з'яўляецца амаль што сімвалам гэтых самых польска-ўсходнеславянскіх повязяў у самым шырокім сэнсе. Неабходнасць такіх даследаванняў выказаў у сваім выступленні прафесар Аляксандр Баршчэўскі — беларусіст, вядомы не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі таксама.

Апрача гэтага на культурна-літаратуразнаўчай секцыі гаварылася пра школьніцтва, асвету і культуру на беларускіх землях у 1908—1914 гадах (праф. С.Ланец), аб беларускім фальклоры ў аповесцях Э.Ажэшкі "Дзюрдзі", "Хам" (д-р М.Яцкевіч), пра Францішка Багушэвіча ў польскіх перакладах і польскай грамадскай думцы (д-р І.Рудзевіч) і інш. Гэтыя выступленні дапоўніліся рэфератамі на мовазнаўчую тэматыку. Думаю, што цікавым будзе сам пералік іх: "Роля палякаў у фарміраванні сучаснай беларускай літаратурнай мовы" прафесара Т.Рот-Жаброўскага, "Аб паланізмах у Бібліі Францыска Скарыны" прафесара Я.Русэка, "Аб паланізмах у гістарычным беларускім слоўніку" д-ра В.Скукоўскага, "Марфалогія польскіх, беларускіх, украінскіх тэхнічных тэрмінаў у гісторыі гэтых моў" д-ра С.Падабінскага і іншых.

Выступіў таксама прадстаўнік мясцовай беларускай дыяспары А.Гаўрылюк. Ён расказаў пра тое, што робяць нашы беларусы, каб развівалася культурнае жыццё на Варміі і Мазурах. Аднак, як адзначыў, падсумоўваючы вынікі канферэнцыі, прафесар Р.Лужны, нягледзячы на ўсё, беларуская і ўкраінская праблематыка была прадстаўлена далёка не поўна. Гэта не віна арганізатараў канферэнцыі, а хутчэй "нясмеласць" тых, каму блізкія справы беларускай культуры, літаратуры і мовы. Мы ж спадзяёмся, што на чарговай канферэнцыі такіх хібаў ужо не будзе. Гэта надта важна і для нашай кафедры ўсходнеславянскіх даследаванняў, тым больш што ў нас працуюць выдатныя знаўцы беларускай літаратуры і мовы — Альберт Барташэвіч і Базыль Бялаказовіч. Гэта дзякуючы іх аўтарытэту і намаганням, нашы маладыя навуковыя супрацоўнікі ўзяліся за даследаванні, звязаныя з беларускай культурай і мовай. Нясціпла дадам, што ў гэтым ёсць і мой удзел. Неўзабаве пад маёй рэдакцыяй выйдзе кніга "У коле беларускай культуры", спадзяюся, што ўнясе яна штосьці важнае ў польскую беларутэністыку.

На заканчэнне нагадаю, што канферэнцыя была шырока адзначана ў прэсе і радыё. Спадзяюся, што і ўдзельнікі яе ад'ехалі з Ольштына з пачуццём задавальнення. Зноў чакаем праз два гады.

**Валенты ПІЛАТ, прафесар.**

Ольштын, Польшча.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з дастававчай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

### ПРАЧЫТАЙ УВАЖЛІВА!

**Пасля распаду Савецкага Саюза і адпаведна — раздзялення савецкіх пасольстваў на расійскія, украінскія, беларускія і іншыя нашы суайчыннікі сутыкнуліся з праблемай атрымання віз у краінах іх пражывання. У сваіх пісьмах у рэдакцыю "Голасу Радзімы", прыватных гутарках людзі скардзяцца на тое, што не могуць знайсці дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі, не ведаючы яго адрас. Ідучы насустрач шматлікім пажаданням замежных суайчыннікаў, газета "Голас Радзімы" будзе рада дапамагчы ім і змяшчае на сваіх старонках адрасы і тэлефоны пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь, якія адкрыліся за апошні час у далёкім і блізкім замежжы.**

**Гэты спіс нашых прадстаўніцтваў мы будзем рэгулярна друкаваць у газеце. Ён будзе падаўжацца па меры адкрыцця новых пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь за мяжой.**

1. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША
1619 New Hamphshire Ave. N.W. Washington D.C. 20009, tel. 202-986-1604.

2. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Швейцарскай Канфедэрацыі, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры Міжнародных арганізацыях у Жэневе
Av. de La Paix 15, 1201 Geneve, Suisse (8-104122), tel. 733-18-70.

3. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Аўстрыя, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене
Erzherzog Karl-Strasse 182, Vienna a-1220 Austria, tel. 229-352.

4. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА
1, rue Miollis 75015 Paris, tel. (8-10-331) 43-80-08-92.

5. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча (Варшава)
Warsaw Athenska Street 67, tel. 17-39-54.

6. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Гданьску
Тэл. 41-00-26 або 41-40-26, Гданьск.

7. Пасольства Рэспублікі Беларусь у дзяржаве Ізраіль
2 Hoffmann Strasse (Belt Hatextill) Tel Aviv, Israel. Tel. 510-22-36, 510-23-37.

8. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ
Waldstrasse 42, Postfach 200908, 5300 Bonn 2 v Bad-Godesberg, BRD. Tel. (0228) 31-88-40.

9. Пасольства Рэспублікі Беларусь у КНР
Ul. Duntch Zhi Man Jai, Beitch Zhun Tse, D. 4. Beijing. Tel. 532-64-26.

10. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі
вул. Марасейка, 17, 101100, г. Масква. Тэл. (095) 924-70-31.

11. Пасольства Рэспублікі Беларусь на Украіне
Тэл. (044) 293-63-41.

12. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы
вул. Раўгіклас, 25, Вільнюс. Тэл. (0122) 26-03-17.

13. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы
г. Юрмала, санаторый "Беларусь". Тэл. (0132) 75-13-30, (75-26-45).

14. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі
1, St. Stephan's Crescent, Bayswater, London W 25 QT. Tel. 221-39-41.

15. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі
Тэл. 66-88-19 і 66-21-47.

## *СПОРТ*

### ...І Ў КНІГУ ГІНЕСА

Імя Вячаслава Хараненкі добра вядомае ў спартыўных колах Беларусі. Ён адзін з мацнейшых гіравікоў рэспублікі, пераможца і прызёр многіх буйных спаборніцтваў.

А нядаўна беларускі асілак устанавіў у Маскве арыгінальнае сусветнае дасягненне: за адну мінуту ён 45 разоў падняў, не апускаючы на зямлю, 150-кілаграмовую штангу, што склала ў суме 6 тон 750 кілаграмаў. Гэты рэкорд будзе занесены ў айчынную кнігу "Дзіва" і, магчыма, у кнігу Гінеса.

### "ЦІВАЛІ" Ў ФІНАЛЕ

Новую выдатную старонку ў развіцці хакея ў Беларусі ўпісала каманда "Цівалі" з Мінска. Яна выйшла ў фінал Кубка Еўропы.

У паўфінале, які адбыўся ў Фінляндыі, нашы хакеісты выйгралі ў каманд "Валянрэнген" (Нарвегія) — 6:3, "Акроні" (Славенія) — 6:0, а ў заключны сустрэчы раздзялілі ачкі з фінскай ТПС — 2:2.

### РОССЫП УЗНАГАРОД

Чэмпіянат свету ў Кстове (РФ) па самба сабраў атлетаў з 27 краін. Добра выступіла тут зборная Рэспублікі Беларусь. Яна заваявала 5 першых, 3 другія і 5 трэціх месцаў.

Вось імёны пераможцаў: Л. Бядрыцкая, І. Казанцава, С. Селіхава, В. Казлоўская і В. Данілаў.

### ПЕРШАЯ ПРЫКІДКА ЎДАЛАСЯ

На вядомым катку "Медэо" прайшлі першыя ў сёлетнім сезоне міжнародныя спаборніцтвы канькабежцаў. У камандзе зборнай Рэспублікі Беларусь адсутнічаў чэмпіён свету Ігар Жалязоўскі. І тым не менш некалькі нашых спартсменаў паказалі добрыя вынікі.

Адзначым маладога мінчаніна Віталя Навічэнку. На дыстанцыі 5 000 метраў ён значна перавысіў алімпійскі нарматыў і ўстанавіў новы рэкорд Беларусі: 7 мінут 4,47 секунды.

### ЗАПРАСІЛІ Ў СІРЫЮ

Іграку мінскага "Дынама", пасля — трэнеру Анатолю Байдачнаму прыйшло запрашэнне ўзначаліць нацыянальную зборную каманду Сірыі па футболу. Анатолій даў згоду і цяпер займаецца афармленнем дакументаў.



**Неаднаразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў, свету і былога СССР штангіст Леанід ТАРАНЕНКА (на здымку) узначаліў зборную Беларусі, якая гэтымі днямі адправілася ў Аўстралію на першынство планеты.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1654. Падпісана да друку 23. 11. 1993 г.